# Беларус

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

B I E L A R U S
Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№ 353 Год выд. XXXVII | Лістапад 1988


## РАЗГОН ДЭМАНСТРАЦЫІ Ў МЕНСКУ

**«Бясьсільле і няўменьне гаварыць з народам»**

Агенцтва Ройтэра падало 1-га лістапада з Масквы пра масавую дэманстрацыю ў Менску, у якой узяло ўдзел ад 10 да 30 тысячаў людзей. Дэманстрацыя адбылася ў нядзелю 30-га кастрычніка ў сувязі з адзначэньнем Дзядоў, «слаўнай беларускай традыцыяй, адроджанай таварыствам 'Тутэйшыя' год таму» («Чырв. Зьмена», 19.X.88).

Менскія ўлады спачатку далі былі дазвол на мітынг, а пасьля, два дні перад тэрмінам забаранілі.

Але мітынг-рэквіем адбыўся. Васіль Быкаў сказаў карэспандэнту газэты «Московские Новости» (6.XI): «Шматтысячны мітынг усё-ж сабраўся ў полі недалёка ад Курапатаў, каб ушанаваць памяць сыноў беларускага народу, што загінулі ў часох сталінскіх рэпрэсіяў і Вялікай Айчыннай вайны. Людзі, стаўшы на калені, слухалі прамову археоляга, старшыні таварыства 'Мартыралёг' Зянона Пазьняка. Адзьдзелы міліцыі й нутраных войскаў разагналі мітынг». Быкаў дадаў, што трэба правесьці расьсьледаваньне й пакараць вінаватых за разгон.

У згаданым паведамленьні Ройтэра былі пададзеныя некаторыя дэталі, пра якія расказалі прадстаўнікі маскоўскае групы «Мэмарыял» Карына Мусаэльян і Дзьмітры Леонаў. Паводля іх, мітынг пачаўся на могілках менскага прадмесьця (на могілках ля Маскоўскай шашы, якія завуцца Маскоўскімі могілкамі). Калі міліцыя, ужываючы дубінкі й сьлязацечны газ, пачала разганяць сход, частка ўдзельнікаў падалася да месца масавых расстрэлаў людзей сталінцамі Курапаты, што знаходзілася колькі кілямэтраў ад могілак. Але там ізноў міліцыя (у некаторых паведамленьнях згадваліся й сабакі) разагнала людзей. Было арыштавана 80 асобаў, у тым ліку й Зянон Пазьняк (пазьней выпушчаны).



*Мітынг-рэквіем у Менску ўшаноўвае памяць ахвяраў сталінізму. («ЧЗ», 5.XI.88)*



*Міліцыянеры арыштоўваюць дэманстрантаў. («ЧЗ», 5.XI.88)*

*(Працяг на 2-й б.)*



## НОВААБРАНЫ ПРЭЗЫДЭНТ ЗША ДЖОРДЖ БУШ

Віцэ-Прэзыдэнт Джордж Буш пяройме абавязкі ад Прэзыдэнта Рональда Рэйгана 20 студзеня 1989 году з мамэнтам злажэньня прысягі (інаўгурацыя).

Фармаваньне свайго кабінэту сп. Буш пачаў ужо. Першае, што ён зрабіў, гэта — назначыў за дзяржаўнага сакратара (міністра замежных справаў) свайго блізкога супрацоўніка, былога міністра фінансаў і былога шэфа канцыляryі Прэзыдэнта Рэйгана, сп. Джэймса Бэйкера. Гэта паказвае, што пытаньням вонкавых дачыненьняў новы прэзыдэнт будзе надаваць вялікую ўвагу. Адразу-ж па выбарах сп. Буш даў знаць, што ён пляную раньнюю сустрэчу з савецкім лідэрам Гарбачовам, зь якім ён спатыкаўся ўжо двойчы на становішчы віцэ-прэзыдэнта.

Новаабраны галава дзяржавы ў сфэры вонкавых дачыненьняў будзе працягваць палітыку свайго папярэдніка Прэзыдэнта Рэйгана, трымаючыся яшчэ больш перакананьня, што толькі ваенна моцная Амэрыка мае найлепшыя шанцы забясьпечыць мір у сьвеце й абарону дэмакратыі, правоў чалавека.

Сп. Буш добра абазнаны з палажэньнем у Ўсходняй Эўропе, у тым ліку й станам паняволеных народаў. Азнаёмлены ён і зь беларускай праблемай у выніку свае працы за часамі Прэзыдэнта Ніксана на становішчы пасла ў ААН, а пасьля — старшыні Нацыянальнага Камітэту Рэспубліканскае партыі, калі яму давялося спатыкацца з прадстаўнікамі беларускіх рэспубліканскіх клюбаў.

У перавыбарнай кампаніі 1984 году Віцэ-Прэзыдэнт Буш блізка супрацоўнічаў з фэдэрацыяй этнічных клюбаў Рэспубліканскай партыі. У склад фэдэрацыі ўваходзяць таксама й беларускія клюбы. Фэдэрацыя актыўна падтрымала Бушаву кандыдатуру ў сёлетніх выбарах.

Газэта «Беларус» у папярэднім нумары падала сваім чытачом аргумэнты, чаму трэба галасаваць за Джорджа Буша.

Мы шчыра вітаем новаабранага Прэзыдэнта зь перамогай у выбарах, зычым яму як найлепшых удачаў на гэтым найадказьнейшым становішчы ды выказваем пэўнасьць, што сп. Джордж Буш станецца адным зь вялікіх прэзыдэнтаў Злучаных Штатаў Амэрыкі.

**«Беларус»**

## «ХВАЛЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СЬВЕДАМАСЬЦІ ДАКАЦІЛАСЯ ДА МЕНСКУ»

Пад гэткім загалоўкам заходнянямецкая газэта «Франкфуртэр Рундшаў» (9.XI.88) зьмясьціла артыкул свайго маскоўскага карэспандэнта, які зрабіў агляд апошніх падзеяў у Менску і спрэчак у беларускім і ўсесаюзным друку вакол нацыянальнага адраджэньня на Беларусі ды ўдзелу ў гэтым працэсе пісьменьнікаў Васіля Быкава, Алеся Адамовіча й групы «Талака».

У Менску, піша нямецкая газэта, дзе больш як траціна Беларусаў гораду у 1979 годзе роднаю мовай назвалі мову беларускую, у 1986 г. была толькі адна беларускамоўная школа. Цяпер у БССР толькі ў 40 дзіцячых садкох гутарыцца пабеларуску.

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $15 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# РАЗГОН ДЭМАНСТРАЦЫІ Ў МЕНСКУ

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

Удзел у мітынгу ўзялі нефармальныя групы, а таксама прадстаўнікі саюзаў мастакоў, кінэматаграфістаў ды ініцыятыўнае групы Беларускага Народнага Фронту.

Народны Фронт Беларусі, зазначыў Ройтэр, фармуецца на ўзор падобных арганізацыяў, якія легальна існуюць у рэспубліках Прыбалтыкі.

Удзел у адзначэньні памяці ахвяраў сталінізму ўзяў таксама беларускі адзьдзел усесаюзнага таварыства «Мэмарыял». Таварыства гэтае правядзе свой, афіцыйна дазволены, ўстаноўчы зьезд у Маскве 17-18 сьнежня сёлета. У дзень, калі ў Менску ўлады разагналі дэманстрацыю, 600 прыхільнікаў «Мэмарыялу», паводля Ройтэра, мелі афіцыйна дазволены сход у Маскве.

Як сказаў Леонаў, ад імя «Мэмарыялу» была пасланая тэлеграма генэральнаму сакратару Гарбачову з апратэставаньнем разгону мітынгу ў Менску і з дамаганьнем, каб вінаватыя былі пакараныя.

Пра дэманстрацыю ў Менску шырака паведамілі заходнія органы друку.

Савецкі акадэмік Андрэй Сахараў, які знаходзіўся ў гэтым часе ў гор. Бостане ў ЗША, на сваёй першай прэсканфэрэнцыі 7-га лістапада сказаў, што разгон дэманстрацыі ў Менску 30 кастрычніка — знак пагрозы перабодве з боку кансэрватыўных элемэнтаў. Сахараў сказаў, што новапрыняты закон аб парадку правядзеньня сходаў, мітынгаў і вулічных шэсьцяў пагражае стварыць у краіне «ваенны стан», які «можа зьнішчыць працэс перабудовы» («Бостан Глоўб», 8.XI).

Друк БССР зарэагаваў на разгон мітынгу парознаму: газэты «Літаратура і Мастацтва» й «Чырвоная Зьмена» зьмясьцілі апісаньні падзеі, лісты ў рэдакцыю ад удзельнікаў мітынгу. Людзі абураныя і самым фактам разгону і «тлумачэньнямі» ўладаў, чаму мітынг ня мог адбыцца: «у сувязі з адсутнасьцю ў горадзе традыцыі правядзеньня дня памяці», «у сувязі з правядзеньнем 29-30 кастрычніка ўрачыстасьцяў, прысьвечаных 70-годзьдзю ўтварэньня камсамолу («ЛіМ», 4.XI). Дарэчы, рух аўтобусаў у раён мітынгу гарадзкія ўлады спынілі, была зачыненая таксама станцыя мэтро «Усход».

Аб тым, што адбылося.

Лекар Лагойскай раённай бальніцы А. Ключынская назірала падзеі з вакна свае кватэры («ЧЗ», 5.XI):

«Недзе гадзін у 12 у наш раён пачалі сьцягваць вялікую колькасьць міліцыі. Яна ачапіла ўвесь сквэр (яшчэ да таго, як сюды сталі зьбірацца людзі), выстраілася ўздоўж Ленінскага праспэкту. Я назірала за ўсім гэтым з вакна і прязь нейкі час убачыла, як міліцыя пачала разганяць натоўп, які ішоў у напрамку могілак. Выхоплівалі асобных людзей і запіхвалі іх у машыны, нават жанчынам заломвалі рукі. Было жудасна на гэта глядзець.

«Але людзі ўсёроўна ішлі да Маскоўскіх могілак. Потым я назірала, як яны вярталіся адтуль. Міліцыя стаяла наперарэз ім і ня пускала, я нават ня ведаю, чаму. Народ бег проста па сквэры, па полі. Гэта было ўжо ў гадзіны чатыры. Потым дзеяньне перамясьцілася проста да нашага дому. У гэты час мой муж якраз вяртаўся дадому з магазыну і ледзь ухіліўся ад міліцэйскай дубінкі».

У калектыўным рэпартажы дванаццацёх журналістаў газэты «Чырвоная Зьмена» засьветчылі тое самае:

«Мітынг, заяўлены Беларускім Фондам Культуры, ТМЛ [Таварыства Маладых Літаратараў — рэд. «Б-са»] 'Тутэйшыя', забаранілі. Але тое, што многія ўсё-ж зьбяруцца, гарадзкія ўлады, напэўна-ж, прадбачылі. Бо інакш, навошта сюды прыбыло столькі міліцыі? Перакрылі ўваход на могілкі, прыехалі пажарныя машыны з брандспойтамі і вадамётамі. Выклікала зьдзіўленьне і амуніцыя праваахоўных атрадаў: каскі, палкі-дубінкі, шчыты, балоны са сьлязацечным газам. (...)

«Стыхійная частка натоўпу перакінулася на ўзьлесак каля вёскі Курапаты. Не выпадкова менавіта сюды: Курапаты цяпер сталі сымвалам ахвяраў беларускага народу ў гады сталінскіх рэпрэсіяў. Першае, што прагучэла тут, — напамінак пра гэтыя ахвяры і пра наш абавязак перад іх памяцьцю. Гаварыў Зянон Пазьняк, аўтар вядомых усім публікацыяў у 'ЛіМе': 'Курапаты — дарога сьмерці' і 'Шумяць над магіламі сосны'. Тыя, хто тут сабраліся, падтрымалі ідэю стварэньня гістарычнага мэмарыялу на месцы былых катаваньняў. Асобна падкрэсьлім, што і цяпер экстрэмісцкіх выхадак людзі не дапусьцілі, адзінкавыя спробы былі спыненыя самымі ўдзельнікамі. Бязумоўна, сярод выказаных меркаваньняў і прапановаў былі і спрэчныя, вартыя дыскусіі. Але ці магчыма яна была ў дадзеным выпадку: празь нейкі час людзі аказаліся ў коле міліцэйскага ачапленьня. Дыскусіі проста не дапусьцілі, людзей разагналі».

Галоўны рэжысэр тэатру імя Янкі Купалы Валеры Раеўскі, заслужаны дзеяч мастацтва й лаўрэат дзяржаўных прэміяў, у лісьце ў рэдакцыю «ЧЗ» напісаў: «Мы стаміліся ад жыцьця пад калпаком, за калючым дротам няпублічнасьці, бюракратыі і г.д. Я быў на мітынгу нязгальнікам. І добра, што я туды пайшоў». Пра кіраўніцтва гораду Раеўскі сказаў, што яно «расьпісалася ў сваім бясьсільлі і няўменьні гаварыць з народам».

Падобныя думкі й пачуцьці, яшчэ ў вайстрэйшай форме, выказалі шмат якія аўтары лістоў у рэдакцыю, апублікаваных на старонках «ЛіМу».

Газэта «Советская Белоруссия» (16.XI) у рэдакцыйным артыкуле пад заг. «На словах і на справе» зрабіла спробу скампраметаваць мітынг. Газэта, успрыймаючы забарону гарадзкімі ўладамі мітынгу, як «закон», пытаецца: «На што разьлічвалі тыя, хто раздаваў у мэтро і кідаў у паштовыя скрынкі мянчанаў, клеіў на слупох лістоўкі з заклікам дружна зьявіцца на забаронены мітынг?». «Як у гэткім выпадку мысьліца рэалізацыя аднаго з галоўных запаветаў праўнае дзяржавы: узаемная пашана законаў прадстаўнікамі ўлады і кожным грамадзянінам?» «СБ» у сваім даўгім артыкуле не патурбавалася вытлумачыць, на аснове якога гэта *закону* мітынг быў забаронены.

Намаганьне «СБ» ахаяць мітынг-рэквіем бачыцца таксама і ў іншым агульным цьверджаньні газэты: «...На несанкцыяваны мітынг прыбылі групы экстрэмісцкі настаўленых асобаў зь некаторых прыбалтыцкіх рэспублікаў і г. Масквы». Прыкладаў «экстрэмізму» газэта аднак не падала. Удзельнікі-ж мітынгу ў сваіх сьветчаньнях адзначылі якраз высокую дысцыплінаванасьць натоўпу.

## «ДЗЯДЫ» Ў ГОРАДНІ

Гісторыка-краязнаўчае аб'еднаньне «Паходня» двойчы зварачалася ў гарком па дазвол на мітынг-рэквіем, але дазволу не дастала. 30-га кастрычніка на ўсіх могілках гораду ўскладаньне вянкоў было правядзена камсамольскімі актывістамі. «Паходня» пастанавіла пасланца на гэтую ўрачыстасьць сваіх дэлегатаў.

*Дакумэнты*

# ДА ГРАМАДЗЯНАЎ БЕЛАРУСІ

**Адозва арганізацыйнага камітэту Беларускага Народнага Фронту за перабудову «Адраджэньне»**

Чацьвёрты год у СССР ідзе перабудова, распачатая лепшымі сіламі КПСС. Наш народ успрыняў гэтую справу, як сваю крэўную, як адзіную магчымасьць вырвацца з эканамічнага застою, замацаваць сацыяльную справядлівасьць, аднавіць ленінскія прынцыпы нацыянальнай палітыкі, вырашыць вострыя экалягічныя праблемы, разьняволіць творчыя стваральныя сілы чалавека. Галоўная перашкода на шляху дэмакратычнага і гуманнага аднаўленьня — адміністрацыйна-камандная сыстэма кіраваньня ва ўсіх сфэрах грамадзкага жыцьця.

Насьпела пільная патрэба стварыць сапраўднае народаўладзьдзе. «Не народ зроблены для ўраду, а ўрад для народу», — пісаў змагар за народную волю Кастусь Каліноўскі.

19 кастрычніка 1988 году ў сталіцы Беларусі Мінску на ўстаноўчым сходзе Беларускага гісторыка-асьветніцкага таварыства памяці ахвяраў сталінізму «Мартыралёг Беларусі» быў утвораны арганізацыйны камітэт Беларускага Народнага Фронту за перабудову «Адраджэньне», у які ўвайшлі: Рыгор Барадулін, Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч, Анатоль Грыцкевіч, Уладзімір Конан, Адам Мальдзіс, Зянон Пазьняк, Пімен Панчанка, Алег Белавусаў, Алесь Бяляцкі, Анатоль Варава, Вінцук Вячорка, Павел Дзьмітрук, Юры Дракахруст, Міхал Дубянецкі, Алесь Емельянаў, Вячаслаў Жыбуль, Яўген Кулік, Мікола Купава, Аляксей Марачкін, Валера Масьлюк, Пятро Садоўскі, Алесь Суша, Сымон Сьвістуновіч, Кастусь Тарасаў, Міхась Ткачоў, Алег Трусаў, Генадзь Тумаш, Ігар Чарняўскі, Міхась Чарняўскі, Яўген Шунейка, Васіль Якавенка.

Беларускі Народны Фронт за перабудову «Адраджэньне» (БНФ «Адраджэньне») стварае грамадзянамі рэспублікі незалежна ад нацыянальнасьці, партыйнасьці і веравызнаньня; грамадзянамі, якія падтрымліваюць справу перабудовы, дэмакратызацыі і нацыянальнага адраджэньня, асуджаюць мінулую і сучасную практыку сталінізму і застою.

БНФ «Адраджэньне» падтрымлівае і праводзіць у жыцьцё распачатую лепшымі сіламі КПСС перабудову грамадзтва на прынцыпах дэмакратыі і гуманізму.

БНФ «Адраджэньне» выступае за дэмакратыю, за рэальную ўладу народу, супраць манаполіі і ўлады бюракратычных сіл у любой сфэры жыцьця.

БНФ «Адраджэньне» — за рэальны сувэрэнітэт Беларусі, абвешчаны Канстытуцыямі БССР і СССР.

БНФ «Адраджэньне» — за поўны рэспубліканскі гаспадарчы разьлік і адкрытае абмеркаваньне усіх пытаньняў эканамічнага жыцьця рэспублікі, за падпарадкаваньне эканомікі інтарэсам чалавека, за сацыяльную справядлівасьць.

БНФ «Адраджэньне» супраць усялякага гвалту над асобай, за непарушнасьць правоў чалавека, за прававую дзяржаву.

БНФ «Адраджэньне» — за экалягічна чыстую Беларусь.

БНФ «Адраджэньне» — за адраджэньне і дзяржаўнасьць беларускай мовы.

БНФ «Адраджэньне» — за аднаўленьне праўдзівай навуковай гісторыі Беларусі.

БНФ «Адраджэньне» — за ўсебаковае разьвіцьцё культуры беларускага народу.

БНФ «Адраджэньне» — за свабоднае разьвіцьцё моваў і культур усіх нацыянальнасьцяў, што жывуць на Беларусі.

ГРАМАДЗЯНЕ!

Стварайце групы падтрымкі Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»!

**Арганізацыйны камітэт БНФ «Адраджэньне»**

## ПРЭМІЯ ЗА НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭНЬНЕ

На сустрэчы ў Таварыстве Маладых Літаратараў (ТМЛ) «Тутэйшыя», якая адбылася 12 кастрычніка сёлета, старшыня т-ва Алесь Бяляцкі паведаміў, што «зацьверджаная Прэмія ТМЛ 'Тутэйшыя'». Прэміяй штагоду будуць адзначаць «ўсе літаратары (ня члены 'Тутэйшых'), якія найбольш выдатна праявілі сябе на ніве беларускага нацыянальнага адраджэньня». *(Паводля газэты «Чырвоная Зьмена», 19.X.88)*

## Сорамна было слухаць

Паглядзела 31 кастрычніка 1988 г. тэлеперадачу пра тое, як у Мінску ўлады «дапамаглі адсьвяткаваць» Дзень Памяці, сьвята, якому ўжо сотні гадоў. Што-ж. Гэта поўнасьцю ў духу 30-х гадоў, сталіністы сваіх пазыцый не здаюць. Сорамна было слухаць апраўданьні намесьніка старшыні гарвыканкому і прадстаўніка міліцыі.

Чытаю, што некаторыя пасылалі пісьмы ў органы, каб спыніць дзейнасьць «Талакі». Такіх пісьмаў вунь колькі было ў славутыя жахамі 30-я, і на сходах цэлыя калектывы патрабавалі расстраляў «ворагам народу». Так што знойдуцца людзі, каб задушыць свабодную думку, аб'явіць экстрэмістамі людзей якія адчулі сябе гаспадарамі на сваёй зямлі.

**А. Зайка**
**настаўніца Запалянскай васьмігадовай школы Івацэвіцкага раёну**
*(«Зьвязда», 12.XI.88)*

# ТЫСЯЧАГОДЗЬДЗЕ ХРЫСЬЦІЯНСТВА Ў САЎТ-РЫВЭРЫ

30-га кастрычніка сёлета царква імя сьв. Ефрасіньні Полацкай была перапоўнена прыхаджанамі і гасьцямі з Канады, Нью-Ёрку, Чыкага.

А 9-й гадзіне раніцы пачалася сьвятая Літургія, а за ёй адбыўся юбілейны малебен.

У багаслужбе ўзялі ўдзел: прадстаўнікі ад Архіепіскапа Якаваса, экзарха Канстантынопальскага Патрыярха на Паўночную і Паўдзённую Амэрыку, епіскапы Атэнагор, Ісая і настаяцель царквы імя сьв. Ефрасіньні Полацкай ў Саўт-Рывэры а. Мячыслаў Брынкевіч, а таксама настаяцелі цэркваў імя сьв. Ефрасіньні Полацкай у Таронцe (Канада) пратапр. Павел, імя сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле (Нью-Ёрк) а. Усевалод, імя сьв. Юр'я ў Чыкага а. Канстантын і пратапр. Сьвятаслаў Коўш.

асабліва ў царкве. Гэтая ўрачыстасьць Тысячагодзьдзя дае нам магчымасьць ацаніць багатую й шчодрую культурную спадчыну Беларусі, спадчыну, якую беларускія Амэрыканцы горда перахоўваюць і якая шмат узбагаціла нашу нацыянальную тканіну».

Воплескі, што сталі замаўкаць, узмоцніліся раптам ізноў, бо на сярэдзіну залі ўляцелі маладыя спрытныя прыгожыя пары танцораў ансамблю «Васілёк» і пацешылі танцамі: «Лявоніха», «Мікіта» і часткаю «Карагоду».

Бурнымі воплескамі адудзячылі прысутныя танцорам і харэографу «Васілька» сп-ні Але Орса-Рамана.

На сцэну, як і танцоры «Васілька», у вышываных кашулях узышлі ўдзельнікі царкоўнага хору і пад кіраўніцтвам Аўгена Скаўронскага прасьпявалі



*Ідзе багаслужба. Епіскапы Атэнагор і Ісая (пасярэдзіне) і айцы (зьлева): Канстантын Бандарчук, Мячыслаў Брынкевіч, Усевалад Шамяціла, Пётр Вялікі, Сьвятаслаў Коўш. Фота Мікалая Дутка.*

Мілагучна сьпяваў царкоўны хор пад кіраўніцтвам Аўгена Скаўронскага. У часе багаслужбы да вернікаў прамаўлялі: Яго Прэасьвяшчэнства Епіскап Атэнагор і а. Канстантын. Уладыкаў вітаў а. Мячыслаў і передаў ім ад імя парафіі сувэніры: намаляваны а. Канстантынам абраз сьв. Ефрасіньні ды вышыты прыхаджанкамі беларускі ручнік. Па заканчэньні Божай службы вернікі накіраваліся ў залю Грамадзкага Цэнтру на акадэмію й сьвяточную трапезу.

Адчыніў урачыстасьць старшыня царкоўнага камітэту сп. Міхась Бахар. Яго Прэасьвяшчэнства Епіскап Ісая благаславіў сталы. Хор і ўсе прысутныя прасьпявалі «Ойча наш», а пасьля хор прасьпяваў амэрыканскі й беларускі гімны.

Пасьля кароткага тосту а. Мячыслава Брынкевіча сп. Бахар папрасіў на сцэну выкладчыка Куінскага каледжу ў Нью-Ёрку праф. Томаса Бэрда. Змоўклі гутаркі, звон відэльцаў і шклянак, усе ўважна праслухалі ягоны зьмястоўны даклад у ангельскай мове пра хрысьціянства ў Беларусі і гісторыю аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы. Перапоўнены фактамі даклад пабеларуску прачытаў сп. Міхась Сенька.

Сп. Бахар прывітаў прысутных на залі ганаровых гасьцей ды зачытаў прывітаньні ад вышэй пералічаных прыходаў, ад прэзыдэнта Беларускай Цэнтральнай Рады сп. М. Зуя і ад начальніка Беларускага Вызвольнага Фронту Д. Касмовіча.

Др. Р. Латышоў прачытаў прывітаньне ад віцэ-прэзыдэнта Амэрыкі Джорджа Буша.

«Вашая сёньняшняя ўрачыстасьць, — напісаў сп. Буш, — паказвае на важнасьць, якую вашая грамада надае справе перахаваньня традыцыйных вартасьцяў, увасобленых у сям'і і

царкоўныя і народныя песьні: «Благаслави, душе моя, Господа» А. Архангельскага, «О юности моей» В. Старарускага, «Хвалите имя Господне» А. Архангельскага, «Люблю наш край», гарм. М. Куліковіча, «Рабіначка», гарм. А. Тэраўскага, «О, Беларусь, мая шыпшына» М. Куліковіча ды «Магутны Божа» Натальлі Арсеневай і Міколы Равенскага (памылкова прыпісанае М. Куліковічу).

На заканчэньне сп. Міхась Бахар падзякаваў усім прысутным за удзел у сьвяткаваньні юбілею, а сп-ні Соні Арцюшэнка і ейным памочніцам за смачныя стравы.

Із словам удзячнасьці Богу вступіў Яго Прэасьвяшчэнства Епіскап Ісая.

**К.**

## З КАЗАНІ ЕП. АТЭНАГОРА

*Епіскап Атэнагор, адзін з двух прадстаўнікоў патрыяршага экзарха Архіепіскапа Якаваса, у сваёй казані, перадаючы прывітаньне й блаславенства ад Канстантыпопальскага Патрыярха Дзімітрыя, сказаў:*

Сёньня, сябры мае, асабліва ў гэтай блаславёнай Амэрыканскай краіне, нам дадзеная магчымасьць быць добрымі Амэрыканцамі і адначасна быць вернымі традыцыям краю, зь якога мы прыбылі сюды. Бо Амэрыка — гэта цудоўная мазаіка людзей усіх пакаленьняў з усіх традыцыяў, у тым ліку й праваслаўнай традыцыі, а сёньня, паколькі мы сьвяткуем гэты ваш юбілей, канкрэтна і беларускай традыцыі, традыцыі блаславёнай, сьвятой, вельмі сьвятой і вельмі каштоўнай, якую вы передаяце сваім дзецям. Першае, што вашыя дзеці павінны мець, гэта ўсьведамленьне таго, што, каб быць добрымі Амэрыканцамі, яны павінны быць у першую чаргу добрымі Беларусамі й добрымі праваслаўнымі. Бо яны ня здолеюць несьці сьветчаньня сваёй амэрыканскасьці, калі ня будуць раней несьці сьветчаньня спадчыны сваіх бацькоў і дзядоў.

Я ня быў-бы, ня мог-бы быць епіскапам сёньня, калі-б мае бацькі не ўзгадавалі мяне перш-наперш у традыцыі нашае Царквы і якія передалі мне пачуцьцё гонару за яе.

Вы сёньня сьвяткуеце ня толькі Тысячагодзьдзе, вы сьвяткуеце шмат больш, вы сьвяткуеце сваю спадчыну, сваю культуру, край, зь якога вы прыбылі, вы ўшаноўваеце сваіх дзядоўпрадзедаў, якія ішлі перад вамі, вы ўшаноўваеце сваіх прашчураў, якія ў поце чала свайго і крывёй жыцьцяў сваіх забясьпечылі вам магчымасьць сёньня быць свабоднымі і магчымасьць жыць. Вы сьвяткуеце, мае сябры, славу ўсяе свае мінуўшчыны, свае традыцыі й веры, стоячы перад будучыняй на парозе двадцаць першага стагодзьдзя. Вы адзначаеце ня толькі сваю мінуўшчыну, але куды больш як гэта — вы ўшаноўваеце ўсё, што добрае, усё карыснае, усё, што народ ваш ахвяраваў сьвету. І запраўды вы можаце і мусіце быць гордымі людзьмі, бо вам было шмат дадзена Богам. Вам была дадзеная гэтая праваслаўная вера, якую вы ўшаноўваеце, Хрыстова вера, традыцыя бацькоў, традыцыя айцоў Царквы, што дайшла да вас праз стагодзьдзі.

## З ПРАМОВЫ ЕП. ІСАІ

*На банкеце Епіскап Ісая, перадаючы прывітаньне ад Архіепіскапа Якаваса, сказаў:*

Слухаючы тут розных прамоўцаў, я прыгадаў дзень Сёмухі, калі Сьвяты Дух даў магчымасьць апосталам гаварыць рознымі мовамі — як нам усім аб гэтым ведама — і людзі пачулі пасланьне аб Збаўленьні ў іхных уласных мовах, як кажа сьв. Лукаш у кнізе Дзеяньняў. У гэтым сэнс Сёмухі.

Мы, праваслаўныя хрысьціяне, як кветкі на гэтых сталох — розныя кветкі, усе прыгожыя, але ўсе розныя, — кожная зьзяе сваім прыгаствам і дапаўняе адна адну.

Калі мы кажам, што Сьвяты Дух дайшоў да нас праз стагодзьдзі дзякуючы Хрыстовай Царкве, дык пад словам «Царква» мы не разумеем набору правілаў і навучаньняў, — калі мы кажам «Царква» мы разумеем «людзі». І калі мы кажам «людзі», мы маем на ўвазе розныя мовы, розныя звычаі, розныя традыцыі. А гэта таму, што Бог ня ёсьць Богам манатоніі. У гэткім выпадку Ён мог стварыць нас копіямі адзін аднаго, каб мы былі ўсе аднолькавыя. Але Бог ёсьць Богам разнастайнасьці, і гэтая разнастайнасьць знаходзіцца ў адзінстве. І гэткія мы: мы як пальцы аднае рукі — розных разьмераў, але кожны палец вельмі істотны ў станаўленьні цэлае рукі.

Прычына, чаму мы сёньня ўсе тут, ляжыць у нашых продках, у нашых прашчурах. Прафэсар Бэрд сказаў зь вялікай рацыяй, што прыгадваць сваю мінуўшчыну — гэта ўсяроўна як маліцца. І я вельмі ўражаны тым, што ўсе мы тут ўдзячныя Богу за тое, што нашыя продкі ў Беларусі захоўвалі нам нашую веру на працягу тысячы гадоў.

---

Вялікага й працавітага прыхільніка беларускага друкаванага слова, нястомнага пашыральніка газэтаў «Бацькаўшчына» й «Беларус»

## сп. БРАНІСЛАВА ДАНІЛОВІЧА

шчыра вітаем з 80-мі ўгодкамі жыцьця, што споўніліся 20 лістапада сёлета, ды жадаем яму добрага здароўя і ўсякай памыснасьці ў асабістым жыцьці і ў працы на грамадзкай ніве.

**Рэдкалегія «Беларуса»**

---

Шматгадоваму грамадзкаму працаўніку, старшыні Фундацыі імя П. Крэчэўскага, сябру галоўнае й нью-ёркскае ўправаў БАЗА,

## ФРАНЬЦІШУ БАРТУЛЮ

з нагоды 70-годзьдзя жыцьця, што споўнілася 17 лістапада сёлета, сябры й супрацоўнікі зычаць і ў далейшым тае-ж бадзёрасьці, добрага здароўя ды ўсякай памыснасьці ў асабістым і грамадзкім жыцьці.

---

## МІХАСЮ РАГАЛЕВІЧУ

З нагоды 80-х угодкаў жыцьця, што споўніліся 10 лістапада 1988 г., дочкі, сыны, унукі й сястра жадаюць здароўя і шчасьця. Сто гадоў!

---

## УШАНАВАНЬНЕ Н. АРСЕНЬНЕВАЙ

У Нью-Ёрку 19 лістапада адбыўся вечар-банкет у гонар Натальлі Арсеньневай з нагоды 85-х угодкаў жыцьця выдатнай паэткі й шматгадовай грамадзкай працаўніцы. Вечар прайшоў у прыемнай атмасфэры, з чаго былі вельмі задаволеныя і юбілярка і ўдзельнікі. У наступным нумары будзе зьмешчаны ілюстраваны рэпартаж.

## ЧАМУ СЬПЯВАЕ «МРОЯ»?

У палеміцы з паклёпнікамі, аўтарамі арт. «Пена на хвалі перабудовы» («Зьвязда, 27.Х і інш. газ.) сябры беларускамоўнага рок-гурта «Мроя» напісалі:

«Мы таму і пяём, што ня хочам, каб нашае пакаленьне і пакаленьне нашых дзяцей жыло ў атмасфэры сталінскага страху і брэжнеўскай абыякавасьці». («ЛіМ», 11.XI.88).

## АМЭРЫКАНСКАЯ ВЫСТАЎКА Ў МЕНСКУ

**Беларуская мова на выстаўцы**

Ад 29 лістапада да 30 сьнежня сёлета ў Менску будзе працаваць выстаўка «Інфармацыя ў ЗША». Выстаўка адлюстроўвае ўплыў на штадзённы быт у Амэрыцы рэвалюцыйных зьменаў у галіне камунікацыйнае тэхналёгіі (камп'ютэры, капіявальныя машыны, друкаркі, відэадыскі, відэакамэры ды шмат чаго іншага).

На выстаўцы ёсьць тэксты пабеларуску: прывітаньне ад Прэзыдэнта Рэйгана й тлумачэньні да паасобных адзьдзелаў. Двое амэрыканскіх гідаў гутараць пабеларуску.

У часе трываньня выстаўкі, у сярэдзіне сьнежня, будуць праведзеныя сэмінары аб тым, як зьмяніўся амэрыканскі быт у выніку электранічна-інфармацыйнае рэвалюцыі.

*Да 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі*

# БЕЛАРУСКІЯ СЬВЯТЫНІ НА ЭМІГРАЦЫІ



**Праваслаўная царква Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, Н.-Ё., ЗША.**



**Праваслаўная царква Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд-Парку, Н.-Дж., ЗША.**



**Праваслаўная царква Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-гіле, Н.-Ё., ЗША.**



**Праваслаўная царква Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўлендзе, штат Агаё, ЗША.**



**Праваслаўная царква Сьв. Юр'я ў Чыкага, Іл., ЗША.**



**Каталіцкая царква Хрыста Збаўцы ў Чыкага, Іл., ЗША.**



**Праваслаўная царква Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры, Н.-Дж., ЗША.**



**Праваслаўная царква Сьв. Духа ў Дэтройце, Міч., ЗША.**



Праваслаўная царква Сьв. Тройцы ў Дораты, Н.-Дж., ЗША.



Праваслаўная царква Сьв. Кірылы Тураўскага ў Тароньце, Канада.



Праваслаўная царква Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Тароньце, Канада.



Праваслаўная царква Жыровіцкай Божай Маці ў Манчэстэры, Ангельшчына.



Праваслаўная царква Сьв. Мікалая ў Лёндане, Ангельшчына.



Праваслаўная капліца Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Лёндане, Ангельшчына.



Каталіцкая капліца Сьв. Пятра й Паўла ў Лёндане, Ангельшчына.



Праваслаўная царква Сьв. Мікалая ў Нотынггэме, Ангельшчына.



Праваслаўная царква Сьв. Віленскіх Мучанікаў Антона, Яна і Еўстафа ў Мэльбурне, Аўстралія.



Праваслаўная царква Сьв. Пятра й Паўла ў Адэляйдзе, Аўстралія.



Праваслаўная царква Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Рэгенсбургу, Зах. Нямеччына. Будынак не захаваўся.



Капліца а. Бэнэдыктынцаў у Лювэне (Бэльгія), у якой служыў для беларускіх студэнтаў Лювэнскага ўнівэрсытэту сьв. пам. а. Аўген Смаршчок.

# КАТАЛІЦЫЗМ І БЕЛАРУСКАЯ МОВА

У другой палавіне красавіка сёлета польскі кардынал Гэнрык Гульбіновіч наведаў амэрыканскую Палёнію ў Чыкага. Карыстаючы з гэтай нагоды, беларуская дэлегацыя ў складзе васьмёх асобаў склала візыт кардыналу, каб прадставіць яму, вусна й на пісьме, палажэньне Беларусаў-каталікоў на Беларусі. Дэлегацыя прасіла кардынала Гульбіновіча паспрыяць беларускім каталіком на Бацькаўшчыне дастаць свайго біскупа ды ўвесьці беларускую мову ў касьцёл. Кардынал уважліва выслухаў просьбу й абяцаў належна разгледзець справу.

У польскіх рэлігійных колах, аднак, пашыраны пагляд, што беларускія каталікі — гэта Палякі, і ксяндзы на Беларусі (як гэта драматычна паказаў а. Чарняўскі ў сваім лісьце — гл. «Б-с» № 347) ніякіх правоў беларускай мове ў касьцеле прызнаваць ня хочуць, незважаючы на тое, што пераважная бальшыня іхных вернікаў, асабліва маладое пакаленьне, польскае мовы ня ведае.

Паводля газэты «Нью-Ёрк Таймс» (21.XI.88), на Беларусі толькі 15% «Палякоў» могуць гутарыць папольску.

Адзін беларускі культурны дзеяч на Бацькаўшчыне нядаўна сказаў: «Стары касьцёл на Беларусі перажывае глыбокі крызіс, каб не сказаць агонію. Няма беларускага біскупства. Польская мова ў беларускіх касьцёлах ператварылася ўжо ў сваеасаблівую лаціну, у нейкі абавязковы анахранізм, мала зразумелы маладому пакаленьню. Старыя ксяндзы ўжо, відаць, ня здольныя на радыкальную пераацэнку аджылых дачыненьняў паміж касьцёлам і беларускім народам, а маладыя кадры, якія асэнсавалі-б усю глыбіню і пэрспэктыву духова-нацыянальных дачыненьняў касьцёлу й насельніцтва, няма каму рыхтаваць. І ўся гэтая спарахнеласьць выяўляецца на фоне ажыўленьня народнага інтарэсу да каталіцкай веры, да гісторыі беларускага каталіцызму. Такі парадокс».

Гэты самы чалавек сказаў, што яму давялося размаўляць напярэдадні адкрыцьця каталіцкага касьцёлу ў Менску з адным партыйным чыноўнікам. Ён сказаў чыноўніку, што трэба было-б дазволіць весьці касьцельную службу і казані пабеларуску. На што той адказаў:

— Ну да, если ксендзы начнут служить по-белорусски, тогда вы все, писатели и националисты, побежите в костёл Богу молиться. Мы не собираемся укреплять католицизм в Белоруссии. Пускай себе доживает по-польски. Не много осталось».

Але засьлепленае палянізмам каталіцкае духавенства на Беларусі, нажаль, гэтае пагрозы Каталіцкай Царкве ня бачыць і адмаўляецца прызнаць, што будучыня каталіцызму ў Беларусі, пры цяперашнім адроджваньні беларускай нацыянальнай сьведамасьці, можа быць забясьпечаная толькі на беларускамоўнай аснове.

## ДЗЕЙНАСЬЦЬ БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ

У варшаўскім Клюбе Каталіцкай Інтэлігенцыі 20 верасьня й 2 кастрычніка сёлета ў сустрэчах прадстаўнікоў школьнае, студэнцкае й работніцкае моладзі ўзяло ўдзел і Беларускае Аб'еднаньне Студэнтаў (БАС). Мэтай сустрэчаў было выпрацаваць пастуляты маладзежнага руху. Сябры БАС прадставілі на нарадзе шэраг прапановаў што да агульных праблемаў нацыянальных мяншыняў у Польшчы. Адна з прапановаў — каб у Сойме ПНР было ўтворанае Пасольскае Кола Нацыянальных Мяншыняў.

Да шасьцёх выпрацаваных нарадай пастулятаў прадстаўнікі БАС дадалі сёмы, які быў прыняты: спыніць прымусовую палянізацыю нацыянальных мяншыняў у Польшчы.

(Паводля газэты «Новы Дзеньнік», Нью-Ёрк, 1.XI.88).

## «ЗВАЖАЙ» № 3(51)

У верасьнёўскім нумары часапісу Беларускіх Вэтэранаў «Зважай» зьмешчаныя матар'ялы: рэпартаж пра помнік Алесю Гаруну (ілюстраваны); К. Акула — Колькі гэта Хатыняў (пра Курапаты); Я. Б-ка — Вайна 1812 году і беларускія Жыды (працяг); Жывуць злачынцы-ілгуны (пра хвальшаваньне біяграфіі Ўладыслава Галубка); Пасьля Чарнобыля... варвары руйнуюць Палесьсе! (пра салігорскую экалягічную катастрофу); Гарбачоў патрабуе перакладчыка (камэнтар газэты «Таронта Сан»); хроніка; нэкралёгі.

## *«ХРЫСЬЦІЯНСКІЯ НАВІНЫ»*

**№ 2, кастрычнік 1988**

Зьмест бюлетэню (8 бб.): Лёнданская канфэрэнцыя (1000-годзьдзе хрысьціянства ў Беларусі); др. Віктар Сенкевіч — У 10-я ўгодкі сьмерці пралата П. Татарыновіча; Ватыканская хроніка за верасень; рэпартаж пра адкрыцьцё помніка Алесю Гаруну ў Кракаве.

**УВАГА! БЕЛАРУСЫ КАНАДЫ!**

Дарагія Суродзічы! Рыхтуйцеся да зьезду-канфэрэнцыі Беларусаў Канады, што адбудзецца ў Таронце 18-19 красавіка 1989 году. Па інфармацыю зварачайцеся да Каардынацыйнага Камітэту: старшыня: — др. Б. Рагуля (тэл.: /519/432-5164), сакратар — др. Раіса Жук-Грышкевіч (тэл.: /705/728-7581).

## ДЫЯКАН УЛ. РУСАК НА ВОЛІ

У кастрычніку сёлета савецкія ўлады выпусьцілі на волю аднаго із сваіх вязьняў сумленьня, дыякана Расейскай Праваслаўнай Царквы Ўладзімера Русака. Ул. Русак, Беларус з Баранавіч, быў засуджаны за тое, што гаварыў і публікаваў праўду пра перасьлед рэлігіі ў Савецкім Саюзе. Пра яго газэта «Беларус» пісала ў папярэдніх нумарох.

## *БЕЛАРУСАВЕДНЫЯ ЛЕКЦЫІ*

Англа-Беларускае Таварыства ў Лёндане абвесьціла курс лекцыяў на 1988/89 акадэмічны год. Будуць прачытаныя даклады: сп. Р. Фрост (Каралеўскі Каледж у Лёндане) — «Крызіс вуніі: Літва й Польшча ў 1648-67 гг.» (10.XI); сп-чна В. Рыч — «Магутнейшыя за бульдозэраў: абарона пісьменьнікамі прыроднага навакольля» (15.XII); а. А. Надсон — «Каталіцкая Царква ў Заходняй Беларусі ў 1919-1933 гг.» (16.II.89); праф. С. Пуг (Д'юкаўскі ў-т, ЗША) — «Скарына й Сматрыцкі: параўнаньне лексыкі (16.III); др. Л. Г'юз (Славістычная і Ўсходняэўрапейская Школа) — «Беларускі партрэт XVII-XVIII ст.ст. (з слайдамі) (18.V).

Лекцыі будуць прачытаныя ў Бібліятэцы імя Ф. Скарыны.

 



*З жыцьця ў Чыкага*

## ВІЗЫТ У ВАШЫНГТОН

У ліпені сёлета сп-ня Вера Рамук, сакратар Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага, была запрошаная ў Белы Дом на ўрачыстасьць падпісаньня Прэзыдэнтам Рэйганам праклямацыі Тыдня Паняволеных народаў. Пры сустрэчы з Прэзыдэнтам ся-ня Рамук перадала яму, разам з прывітаньнем ад Беларусаў Чыкага, пакет з кніжнай закладкай, выдадзенай сп. Багданом Паўке на адзначэньне 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі, з напісам для Прэзыдэнта ды іншую інфармацыю пра Беларусь і Беларусаў.

Быўшы ў Вашынгтоне, сп-ня В. Рамук наведала таксама кангрэсмэна Фрэнка Анунцыё ды асыстэнтаў сэнатараў Дыксана й Саймана, гутарыла зь імі аб дапамозе Міхалу Кукабаку, аб увядзеньні беларускае мовы ў перадачы «Голасу Амэрыкі».

Газэта «Таймс Ньюзпэйпэрс» (4.VII.88) зьмясьціла здымку сп-ні В. Рамук з кангрэсмэнам Ф. Анунцыё ў часе ейнага наведаньня сталіцы.

## КАЛЯДНЫ ФЭСТЫВАЛЬ

Беларускія прадстаўнікі на Калядны фэстываль у Музэі Навукі й Індустрыі запрашаюць усіх Беларусаў зьведаць прыгожа прыбраныя ялінкі 38-х этнічных групаў Чыкага, у тым ліку й беларускую, а таксама пяць калядных жолабаў, ды спрабаваць страваў розных народаў. Традыцыйны Калядны фэстываль у Чыкага стаўся атракцыяй 800 тысячам наведнікаў.

Фэстываль пачаўся 25 лістапада й будзе трываць да 2 студзеня. Да 18 сьнежня будуць адбывацца паказы калядных звычаяў розных народаў. Беларуская праграма адбудзецца ў суботу 3-га сьнежня ад 2-й гадзіны папаўдні. Будзе адыграная сцэнка зь беларускімі калляднымі традыцыямі й калядоўшчыкамі ў сьвяты вечар. У пастаноўцы будзе таксама згадвацца аб 1000-годзьдзі хрысьціянства ў Беларусі ды будзе сказаная малітва за Міхася Кукабаку.



*Арганізатары каляднае ялінкі: сп-ня Люня Беленіс і сп-тва Вера й Вітаўт Рамукі.*

## ЮРКА ГЕНЮШ

Дваццаць пяць гадоў таму, у кастрычніку 1963 году, на старонках газэты «Ніва» дэбютаваў у беларускай літаратуры Юрка Генюш, сын выдатнае паэткі, патрыёткі й мучаніцы Ларысы Генюш. Нарадзіўся Ю. Генюш 21 кастрычніка 1935 году. Бацька ягоны быў лекарам. У выніку сталінскіх рэпрэсіяў Юрка гадаваўся без бацькоў. Асеў жыць у Беластоку. Памёр на 50-м годзе жыцьця.

У беластоцкім «Беларускім календары» за сёлетні год зьмешчаная кароткая біяграфічная даведка пра яго (з фатаграфіяй) ды слова пісьменьніка Сакрата Яновіча над труною нябожчыка, сказанае 23 лістапада 1985 году. Паколькі ў Яновічавым выступленьні была зробленая афіцыйнай цэнзурай купюра, зьмяшчаем ягонае слова поўнасьцяй.

Усімі паважаная Радзіна, родзічы, і шаноўныя сабраныя! Дазвольце мне сказаць пару слоў, ад імя свайго, сябрыны...

У гэты пануры лістападаўскі дзень, у вялікім смутку праводзім мы ў вечнасьць Юрку Генюша, беларускага літаратара. Ён пакінуў свой выразны сьлед у нашай культуры. Цяжка ўсьведамляць нам тое, што Яго ўжо няма ў жывых. Сталася гэта так неспадзявана, і так балюча, бо-ж у так малады яшчэ век! Юрка пражыў нямнога лет, калі чалавек у сваё пяцьдзесят дасягае якраз зэніту ўласных духовых магчымасьцяў. Нашай маладой культуры вельмі патрэбен кожны талент, тым больш гэтак арыгінальны, якім лёс абдорыў пакойнага Юрку Генюша. Ягонае жыцьцё, нялёгкае зь нялёгкіх, зьявілася якбы сымвалам усяго нашага нацыянальнага шляху, нашага «ўчора», сёньняшняга дня, а — мабыць — і заўтрашняга. Цяжка быць Беларусам у наш час і эпоху, і таму яшчэ цяжэй робіцца на душы ад тае думкі, што гурт рыцараў беларускага паменшаў, пакінуў нас адзін зь яго сьцяганосцаў, — наш Юрка Генюш! Будзем памятаць пра Яго, шанаваць зробленае Ім, дбаць пра належнае Яму месца. Вечная Табе памяць, Юрка!

**А. Сьцепанюк**

## ВЕРА

*На сотую гадавіну*
*ад нараджэньня*
*Алеся Гаруна*

*Ня плач Айчына*
*вялікі Бог*
*магіл тваіх*
*палечыць раны*
*і зноў на твой*
*сьвяты парог*
*прыйдуць Алесі*
*Цішкі*
*і*
*Іваны*

*А ты як маці*
*прыймеш іх*
*і зноў абнімеш*
*сваім лонам*
*яны з крывавых*
*горкіх сьлёз*
*дадуць жыцьцё*
*тваім загонам*

*І будзе сьвята*
*будзе баль*
*зноў кліч Пагоні*
*дзесь над намі*
*няхай жыве*
*наш карнавал*
*наш беларускі*
*пад сьцягамі*

*Няхай у сьвет*
*ляціць прывет*
*усім народам*
*у свабодзе*
*ад шчырай*
*нашае душы*
*заўсёды будзем*
*жыць у згодзе*

*Айчына маці*
*яшчэ раз*
*крыжоў тваіх*
*пражыць ня хачу*
*таму з прысягай*
*на губах*
*сто раз цалую*
*тваё вочы*

***«Сустрэчы» № 6,***
**Варшава, 1987 г.**

# ПОМНІК АЛЕСЮ ГАРУНУ

24 верасьня 1988 г. на Ракавіцкім магільніку ў Кракаве адбылася важная падзея — адкрыцьцё помніка Алесю Гаруну, выдатнаму паэту нашаніўскае пары, рэвалюцыйнаму і незалежніцкаму дзеячу.



*Ля магілы Алеся Гаруна...*

Магілу Гаруна ў Кракаве, забытую і амаль што зьнесеную, адшукаў на пачатку 1980-х гг. Алег Латышонак, малады беларускі гісторык. Разам з бацькам, Юркам Латышонкам, яны пастанавілі пабудаваць там помнік. Дзякуючы дапамозе Беларусаў на эміграцыі (збор сродкаў на Захадзе вёў сп. Кастусь Акула з Таронта), у чэрвені сёлета, пасьля пяцігадовай працы, помнік быў гатовы (здымак у «Беларусе» № 350).




*Жыве памяць пра ідэалы, якім служыў Алесь Гарун.*

У міжчасе зьмянілася ў Савецкім Саюзе адмоўнае стаўленьне да паэзіі Гаруна. У прэсе пачало ўспамінацца ягонае імя, сталі чутнымі патрабаваньні вярнуць ягоную творчасьць беларускай культуры. Урэшце рэшт выйшла ў Менску факсымільнае выданьне зборніка «Матчын Дар». Яшчэ раней пачалі пісаць пра Гаруна Беларусы ў Польшчы, найперш у студэнцкім часапісе «Сустрэчы», а неўзабаве ў «Ніве».

Урачыстасьць адкрыцьця помніка Гаруну ў Кракаве апісаў у «Ніве» Алесь Барскі («Ніва» № 42, 16.X.88). На адкрыцьці была вялікая колькасьць моладзі зь Беласточчыны, а таксама дэлегаты зь Менску й Гародны госьці з Ангельшчыны й Аўстраліі — усіх больш за 100 асобаў. Беларускі школьны тэатр «Парнас» зь Бельску падрыхтаваў мастацкую частку зь вершаў Гаруна і беларускіх патрыятычных песьняў. Барскі называе прозьвішчы тых, хто прамаўляў на магільніку: А. Баршчэўскі (старшыня БГКТ), А. Латышонак, У. Казьбярук (член Саюзу пісьменьнікаў БССР), В. Швед (беларускі паэт з Варшавы), А. Пяткевіч (унівэрсытэт у Гародні), Д. Бічэль-Загнетава (паэтэса з Гародні), Я. Вапа (ад імя Беларускага Аб'еднаньня Студэнтаў у Польшчы), В. Рыч (паэтэса зь Лёндану) і М. Лужынскі (ад Беларусаў Аўстраліі). Нажаль, Барскі не падаў дакладней, пра што гаварылі прамоўцы, аднак «усе выяўлялі глыбокае задавальненьне з тае прычыны, што гэты выдатны пісьменьнік вяртаецца ў гісторыю беларускай літаратуры не як мёртвы баласт, а як жыватворны чыньнік, які ўзбагаціць нашу пісьмовасьць і культуру».

Барскі, як выглядае, даволі дакладна адлюстраваў падзею на Ракавіцкім магільніку, аднак, аказваецца, было ў ёй і колькі іншых важных элемэнтаў. Паводля часапісу «Хрысьціянскія Навіны» (№ 2, Рым, кастрычнік 1988), «сярод прысутных вылучалася 20-асабовая група студэнтаў, якая выступіла пад бел-чырвона-белым сьцягам і з трыма лёзунгамі (даўжынёй 7 м. кожны): 'Жыве Беларусь', 'Памяці Алеся Гаруна — беларускія студэнты БАС' і '70 гадоў БНР'».

Некалькі тыдняў раней беластоцкая «Ніва» падала, што польскія ўлады адмовіліся прызнаць Беларускае Аб'яднаньне Студэнтаў (БАС) легальнай арганізацыяй. А трэба ведаць, што ўжо ў 1981 г. міністар асьветы не дазволіў беларускім студэнтам стварыць сваю арганізацыю.

«Адзначаліся таксама, — піша далей бюлетэнь «Хр. Навіны», — дэлегацыі польскіх незалежніцкіх рухаў: Польская сацыялістычная партыя (ППС) зь лёзунгам: «Змагару Беларусі Алесю Гаруна — з пашанай ППС» і Канфэдэрацыя Незалежнай Польшчы (КПН) зь вянком, на якім красаваўся надпіс: «Жаўнеру вольнай Беларусі — КПН». КПН — адна з больш радыкальных польскіх апазыцыйных арганізацыяў, з крыху нацыяналістычнай афарбоўкай. Тым больш цікавы ейны ўдзел.

Аднак, што самае важнае ўва ўрачыстасьці на Ракавіцкім магільніку, — гэта адназначна моцны патрыятычны дух зарганізаванага *незалежна* ад уладаў мерапрыемтсва. Сымбалічнага характару набірае ўдзел у ім гасьцей з БССР, зь якіх некаторыя знаходзяцца ў цесных сувязях зь «нефармаламі», Беларусаў на эміграцыі ды згуртаваный пад нацыянальным сьцягам моладзі зь Беласточчыны.

• У БССР рыхтуецца цяпер выданьне 10-томніка твораў Уладзімера Караткевіча, якога некаторыя называюць, з рацыяй, «неафіцыйным народным пісьменьнікам».

 

## ПАНІХІДА ПА АХВЯРАХ У КУРАПАТАХ



*Прамаўляе др. Янка Запруднік*

У царкве Жыровіцкае Божае Маці БАПЦ у Гайленд-Парку, Н.-Дж., на просьбу галоўнай управы БАЗА і з удзелам Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, была адслужаная 6 лістапада паніхіда па ахвярах сталінскіх расстрэлаў у Курапатах. На беларускім могільніку ў Іст-Бранcьвіку а. Васіль Андрэюк адслужыў лі-цію ля помніка гэроям Беларусі. У часе малітвы стаяла сьцяжная варта вэтэранаў, беларускі сьцяг быў спушчаны на паўмашты. Др. Янка Запруднік сказаў прынагоднае слова. Хор адсьпяваў жалобны марш «Сьпі пад курганам гэрояў».

### *«ТУТЭЙШЫЯ» — НАЗОЎ З ПРАГРАМАЙ*

На «круглым стале» часапісу «Нёман» (1988, № 6, б. 164) малады пісьменьнік Адам Глобус, прадстаўнік Таварыства Маладых Літаратараў «Тутэйшыя», сказаў:

«'Тутэйшыя' — назоў іранічны. Пакуль мы ня ўсьведамім сябе нацыяй, народам з самабытнай культурай і мовай, мы ня маем права называцца Беларусамі. Дзеля гэтага мы іранічна назвалі сябе 'Тутэйшымі'».

***Ліст у Рэдакцыю***

### ПАДЗЯКА СП-ТВУ ГАНЬКОМ

У справаздачы пра 18-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі напісана, што «сп. М. Ганько дзякаваў усім працаўнікоам Сустрэчы», але не згадана там, каму й за што належыцца найбольшая падзяка.

Сам Мікола Ганько быў гаспадаром Сустрэчы, а Марыя Ганько загадвала кухняй, фінансамі й таксама гаспадаркай. Тыя, што бяруць удзел у такой працы, добра ведаюць, колькі гэта вымагае часу й высілкаў. Музыкі зь Беласточчыны вымагалі забясьпечаньня кватэрамі, харчаваньнем. Галоўна дзякуючы вялікай і ахвярнай, пераважна гаспадарчай (якая мала дзе й калі рэклямуецца, як выдатная заслуга) працы Ганькоў, удзельнікі Сустрэчы былі добра дагледжаныя, забясьпечаныя кватэрамі, харчаваньнем. За гэта Ганьком належыцца ад нас усіх найбольшая падзяка.

**К. Акула**

## «МАРТЫРАЛЁГ БЕЛАРУСІ»

На Беларусі паўстала новае гісторыка-асьветнае таварыства пад назовам «Мартыралёг Беларусі», мэта якога — увекавечненьне памяці ахвяраў сталінізму. Старшыня новае арганізацыі — архэоляг Зянон Пазьняк, сябра ўправы — народны пісьменьнік Васіль Быкаў.

Слова «мартыралёг» значыць сьпіс на кожны дзень году мучанікаў ды іншых сьвятых, памяць якіх ушаноўваецца царквою, веруючымі. Ані Тлумачальны Слоўнік Беларускай Мовы, ані Беларуская Савецкая Энцыклапэдыя, ані Энцыклапэдыя Літаратуры і Мастацтва Беларусі тэрміну гэткага ня вытлумачылі, пэўна-ж дзеля цэнзурных прычынаў.

## *«РОЎНАСЬЦЬ» МОВАЎ У БССР*

**Беларускай і расейскай**

У газэце «Зьвязда» (31.VIII.88) піша В. Юбко, старшы мэтадыст рэспубліканскага навукова-мэтадычнага кабінэту Міністэрства народнай асьветы БССР:

«У школах рэспублікі вывучаецца толькі руская літаратура, а літаратура іншых рэспублік не вывучаецца. (. . .).

«У школах зь беларускай мовай навучаньня на беларускую літаратуру ў IV-X клясах на год прадугледжана праграмай 410 гадзін, а на рускую — 595. Прытым у VIII-X клясах на беларускую літаратуру — 189 гадзін, а на рускую — 340. На беларускую мову — 476 гадзін, а на рускую — 684. Гэта ў школе зь беларускай мовай навучаньня. У школах з рускай мовай навучаньня ў IX-X клясах на беларускую літаратуру прадугледжана праграмай 341 гадзіна, а на рускую — 598. Прытым у VIII-X клясах на беларускую літаратуру адведзена 188 гадзін, а на рускую — 340. На беларускую мову — 442 гадзіны, на рускую — 774».

У канцы свайго артыкулу пад заг. «Цыркуляр і натхненьне. Што скоўвае творчую ініцыятыву настаўніка роднай мовы і літаратуры?» В. Юбко ставіць гэткае пытаньне — тыповае, трэба сказаць, для савецкае нацыянальнае палітыкі на Беларусі:

«Чаму настаўнік роднай мовы за сваю працу атрымлівае ніжэйшую зарплату ў параўнаньні з настаўнікам рускай мовы?»

Пытаньне Юбко пакінуў без адказу. Адкажам за яго мы. Русыфікатарам усе мэтады добрыя: і фальсыфікацыя гісторыі, і адміністрацыйны прымус, і грошы . . .

### 2-ГІ «ВАЛЬНЫ СОЙМ» НЕФАРМАЛАЎ

Свае агульныя зьезды беларускія нефармальныя суполкі (клюбы, гурты, таварыствы) завуць тэрмінам «Вальны сойм», узятым з далёкай мінуўшчыны Беларусі. Першы гэткі Вальны сойм, у якім узялі ўдзел больш за 30 суполак, адбыўся ў сьнежні летась.

Газэта «Чырвоная Зьмена» (19.X) падала, што на лістапад сёлета быў вызначаны Другі Вальны сойм нефармальных суполак.

Як і на першым Вальным сойме, на ім напэўна былі прынятыя адпаведныя пастановы, рэзалюцыі. Дакумэнтаў гэткіх, аднак, савецкі друк, як правіла, ня публікуе, а толькі цытуе, часта вырываючы цытаты з кантэксту.

---

На 78-м годзе жыцьця пасьля цяжкой хваробы адыйшла на вечны супачынак 13 лістапада 1988 году.

## сьв. пам. ЗІНАІДА СТАНКЕВІЧ

заслужаная грамадзкая працаўніца, пэдагог, журналістка, рэдактар і шчырая патрыётка Беларусі. Вечная Ёй памяць, а дачцы Раісе сардэчнае спачуваньне з прычыны страты Дарагой Мамы.

**Сябры галоўнай і мясцовых управаў БАЗА і рэдкалегіі газэты «Беларус»**

---

## *АКАДЭМІК А. САХАРАЎ ПРА М. КУКАБАКУ*

14-га лістапада савецкі акадэмік Андрэй Сахараў на візыце ў Белым Доме, гаворачы пра гвалтаваньне ў Савецкім Саюзе правоў чалавека, назваў дзеля прыкладу двух вязьняў сумленьня: Васіфа Мельянава (які сядзіць за тое, што пратэставаў супраць выгнаньня А. Сахарава з Масквы ў Горкі. Які парадокс! — Сахараў на свабодзе, а Мельянаў яшчэ ўсё ў лягеры), а таксама Міхала Кукабаку. Кукабака быў арыштаваны, сказаў Сахараў, у 1970 г. за тое, што адмовіўся хвальшыва сьветчыць супраць замежнага дыплямата. Фатаграфія Кукабакі была паказаная на амэрыканскім тэлебачаньні.

## КОРАТКА АБ ВАЖНЫМ

• У Менску выйшаў першы нумар новае газэты «Кнігарня», інфармацыйна-рэклямнага бюлетэню, які будзе паведамляць аб выдавецкіх плянах, новых публікацыях, зьмяшчаць рэцэнзіі. Выданьне ілюстраванае.

• У верасьні сёлета ў Менску быў заснаваны гарадзкі бацькоўскі камітэт (ГБК) беларускамоўных клясаў і групаў. Старшыня камітэту — археоляг І. Чарняўскі. У кастрычніку адбылося першае супольнае мерапрыёмства ГБК — ранішнік беларускіх танцаў, песьняў, гульняў. Удзел у ім узялі дзеці 25-х беларускамоўных клясаў гораду. «Адраджэньне беларускай школы, — сказана ў рэпартажы пра ранішнік («ЛіМ», 11.XI), — справа не 10-20-ці чалавек, а шырокі грамадзкі рух».

• У Лепелі створаная «ініцыятыўная група па прапагандзе беларўскай мовы, якая распрацавала спэцыяльную праграму, узгодненую ў райкоме партыі. У выніку ў горадзе ўжо зьявіліся шыльды на роднай мове». («ЛіМ», 11.XI.88)

• У Беларускім Палітэхнічным Інстытуце ў Менску арганізуецца «клюб беларускай культуры (які, дарэчы, значыцца ў плянах кіраўніцтва інстытуту і партыйнага камітэту)». («ЧЗ», 5.XI.88)

• «У паштовых скрынках мянчанаў, на тэлеграфных слупох пачала зьяўляцца 'Адозва арганізацыйнага камітэту Беларускага Народнага Фронту за перабудову 'Адраджэньне''. — («СБ», 16.XI.88)

• «У БССР налічваецца каля 300 аматарскіх (нефармальных) аб'яднаньняў самых розных кірункаў: клюбаў самадзейнай песьні — 26; рок-клюбаў: выканаўцаў — 35, і слухачоў — 18; гуртоў па ахове помнікаў гісторыі і культуры — 26; групаў, якія аддаюць перавагу свайму стылю ў адзеньні, танцах, больш за 30». («Бел. мова і літ. у школе», 1988, № 8, 14)

• «Маскоўскае беларускае зямляцтва існуе год. Яно аб'ядноўвае каля 15 чалавек, нераўнадушных да лёсу роднай мовы і культуры, пераважна студэнтаў ВНУ». У Маскве, паводля дадзеных 1979 г., жыло 57 816 Беларусаў (Тамжа, б. 76, 75)

## ПРЫХАВАНЫ «ВАДАМЁТ»

**Лексыка й палітыка**

У Менску гарадзкія ўлады 30 кастрычніка сёлета выставілі супраць удзельнікаў мітынгу-рэквіему «пажарныя машыны з брандспойтамі і вадамётамі», паводле савецкіх газэтаў. Што гэта — вадамёт? Тлумачальны Слоўнік Беларускай Мовы да гэткага слова не прызнаецца. Партыйныя акадэмікі зрабілі ўражаньне, што вадамётаў няма. У сацыялістычным грамадзтве ды вадамёты?! Супраць каго?.. Лепш, таварышы, тэрміну гэтага ў слоўнік ня ўводзіць . . .

## *ТЭЛЕВІЗАРЫ-ПАДПАЛЬШЧЫКІ*

У выніку «галоснасьці» савецкі друк у матар'ялах пра пажары, замiж апісваньня гэраізму пажарнікаў, пачаў прыглядацца да прычынаў пажараў. Часапіс «Беларусь» (№ 9, 1988) піша:

«Дык чаму-ж цяпер, калі няма недахопу ў маланкаадводах і ў нашых гарадзкіх дамох няма адкрытага агню, толькі ў адным раёне Мінску за год звыш 110 сем'яў аказваюцца пагарэльцамі?..» А вось чаму:

«Тэлевізары айчыннай вытворчасьці (а асабліва «Гарызонты» і «Рэкорды») могуць загарэцца ў любую сэкунду (нават тады, калі яны выключаныя, але штэпсэль ня выцягнуты з разэткі). Так ужо яны сканструяваныя. . . .У мінулым годзе тэлепрыёмнікі спалілі 118 мінскіх кватэраў.

«Запомнім: 'тэлевізары-падпальшчыкі' вінаватыя ў адным кватэрным пажары з кожных трох».

Красамоўны камэнтар да якасьці савецкае тэхнікі ды ўзроўню савецкае тэхналёгіі там, дзе яна не зьвязаная з ваеннымі мэтамі.

---